


## СВЕТ

### ВІЗІТЫ Л. БРЭЖНЕВА

Пасля афіцыяльнага візіту ў Польшчы, Генеральны сакратар ЦК КПСС Л. Брэжнеў нанёс візіт у ГДР. Візіты гэтыя выклікалі велізарнае зацікаўленне ва ўсім свеце.

Як мы ўжо інфармавалі, Л. Брэжнеў з 18 па 22 мая гэтага года нанясе афіцыяльны візіт у Федэратыўную Рэспубліку Германіі.

З 18 па 26 чэрвеня па запрашэнню прэзідэнта ЗША Р. Ніксана Генеральны сакратар ЦК КПСС Л. Брэжнеў будзе прабываць з афіцыяльным візітам у Злучаных Штатах Амерыкі.

### ПАСЛАННЕ КАНГРЭСУ

Прэзідэнт ЗША Р. Ніксан накіраваў кангрэсу пасланне „Знешняя палітыка Злучаных Штатаў на 70-я гады“. Вялікая ўвага ў гэтым пасланні ўдзяляецца пытанням развіцця савецка-амерыканскіх адносін. На маскоўскай сустрэчы ў вярхах ў маі мінулага года, падкрэслівае Р. Ніксан, быў зроблены „рашучы паварот ад канфрантацый апошняй чвэрці стагоддзя“. Упершыню дзве краіны згадзіліся абмежаваць стратэгічныя ўзбраенні ЗША і Савецкага Саюза, пачалі сумесныя намаганні ў некалькіх галінах. Мы дасягнулі, адзначаецца ў пасланні, згоды аб асноўных прынцыпах, якія кіруюць нашымі адносінамі.

Спыняючыся, у прыватнасці, на магчымасцях расшырэння эканамічных суадносін паміж СССР і ЗША, прэзідэнт заяўляе, што цяпер наступным крокам павінна стаць спыненне дыскрымінацыі адносна імпарту савецкіх тавараў і прадстаўлення Савецкаму Саюзу статуса найбольшага спрыяння ў гандлі.

### ВЫСТУПЛЕННЕ САДАТА

Прэзідэнт АРЕ Ануар Садат, выступаючы на мітынгу, заявіў, што „выразная пазіцыя АРЕ заключаецца ў наступным: ніякага частковага пагаднення і ніякіх перагавораў з Ізраілем“.

Гаворачы ў заключэнні аб „этапе татальнай канфрантацыі“ з Ізраілем, прэзідэнт АРЕ сказаў, што гэты этап мае тры галоўныя задачы: вызваленне акупіраваных тэрыторый, перабудова грамадства і ўстанаўленне міру, заснаванага на справядлівасці“.

### МАСІРАВАНЫЯ БАМБАРДЗІРОЎКІ

Амерыканская авіяцыя працягвае масіраваныя бамбардзіроўкі ваколіц камбаджанскай сталіцы. У іх удзельнічаюць цяжкія бамбардзіроўшчыкі „В-52“, якія дзейнічаюць з ваенна-паветраных баз ЗША ў Тайландзе.

### ТУНЕЛЬ ПАД ЛА-МАНШАМ

Праект стварэння тунеля пад Ла-Маншам усё яшчэ не выйшаў са стадыі вывучэння. Пагадненне аб гэтым будаўніцтве было дасягнута паміж Францыяй і Англіяй у 1972 годзе. Розныя групы вывучаюць фінансавыя і тэхнічныя праблемы гэтага праекта. Спецыялісты падлічылі, што расходы на будаўніцтва тунеля на перыяд да 1980 года складуць прыкладна 9,5 мільярда франкаў. (ак)

## БССР

### 28 ГАДОЎ ПАСЛЯ ПЕРАМОГІ

На старонках газеты „Звязда“ з артыкулам „Веліч народнага подзвігу“ выступіў камандуючы войскамі Чырвонасцяжнай Беларускай ваеннай акругі, Герой Савецкага Саюза, генерал-палкоўнік І. Траццяк. Ён, між іншым, піша:

„Выдатнай падзеяй Вялікай Айчыннай вайны з'явілася беларуская стратэгічная наступальная аперацыя, якая атрымала ўмоўную назву „Баграціён“. У ходзе яе поўнасцю была разгромлена група гітлераўскіх армій „Цэнтр“ і вызвалена Беларусь, большая частка Літвы і частка Латвіі, значная частка польскіх зямель на ўсход ад Віслы. Савецкая Армія выйшла да граніц Усходняй Прусіі — логава фашысцкага звера.

У гонар вялікага подзвігу Савецкай Арміі і ўдзячнасці воінам-вызваліцелям беларускі народ узвёў пад Мінскам Курган вечнай славы. У сёлах і гарадах рэспублікі пабудаваны тысячы помнікаў, абеліскаў, курганоў і мемарыяльных дошак.

На беларускай зямлі храбра змагаліся воіны Першай Польскай дывізіі імя Тадэуша Касцюшкі, якія прынялі баявое хрышчэнне пад пасёлкам Леніна на Магілёўшчыне“.

### ЗЯМЛЯ ГЕРОЯЎ

Дзяржынскі раён БССР з'яўляецца радзімай васьмі Герояў Савецкага Саюза. Тут нарадзіліся контр-адмірал Антон Гурын, афіцэры Аляксандр Бурак, Іван Леановіч, Мікалай Шарко, Міхаіл Гармаза, сержант Андрэй Бурак, юны партызан Марат Казей і рэдактар падпольнай газеты „Звязда“ Уладзімір Амельянюк. А разведчык Іван Шмея з'яўляецца кавалерам трох ордэнаў Славы. Героі не парываюць сувязей са сваімі землякамі.

### УЗНАГАРОДЫ ЗА СПАБОРНІЦТВА

ЦК Кампартыі Беларусі і Савет Міністраў БССР разгледзелі вынікі сацыялістычнага спаборніцтва за павелічэнне вытворчасці і продажу дзяржаве прадуктаў жывёлагадоўлі, паляпшэнне іх якасных паказчыкаў у першым квартале 1973 года.

Пераходны Чырвоны сцяг ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР і грашовая прэмія ў суме 2,5 тысячы рублёў прысуджана Брэсцкай вобласці. Сцяг перадаецца з Мінскай вобласці. Пераходны Чырвоны сцяг ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР з выдачай прэміі ў суме 2 тысяч рублёў пакінуты Гродзенскай вобласці.

Сярод раёнаў пераможцамі прызнаны: у першай групе — Мінскі і Слуцкі раёны, у другой — Брэсцкі і Баранавіцкі, у трэцяй — Глускі і Жабінкаўскі.

### КАНДЫДАТЫ Ў ДЭПУТАТЫ

У Беларусі пачалося вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты абласных Саветаў дэпутатаў працоўных. Перадвыбарныя сходы рабочых, калгаснікаў і інтэлігенцыі праходзяць у абстаноўцы велізарнага палітычнага ўздыму, выкліканага імкненнем беларускага народа паспяхова ажыццяўляць задачы трэцяга, рашаючага года пяцігодкі і рашэнні красавіцкага Пленума ЦК КПСС. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### Л. І. БРЭЖНЕЎ У ПОЛЬШЧЫ

У Польшчы прабываў з афіцыяльным візітам Генеральны сакратар ЦК КПСС Леанід Брэжнеў. Спадарожнічала яму група найвышэйшых дзеячоў Савецкай дзяржавы. Як сказаў І сакратар ЦК ПАРП Эдвард Герэк, размовы паміж правадырамі абедзвюх краін пацвердзілі поўную згоднасць поглядаў на ўсе праблемы двухбаковых і міжнародных суадносін. Аб гэтым гаворыць і камюніке, апублікаванае ў сувязі з візітам дружбы.

Замежныя каментатары падкрэсліваюць кансультатыўны характар размоў Л. І. Брэжнева ў Варшаве перад яго паездкай у Германскую Федэратыўную Рэспубліку.

На сустрэчы ў ЦК ПАРП у Варшаве Л. І. Брэжнеў уручыў Э. Герку найвышэйшае савецкае адзначэнне — Ордэн Леніна. Сядзібай савецкай дэлегацыі ў час пабыўкі ў нашай краіне быў палац у Вілянове.

### МАТУРЫ

У адзін дзень ва ўсёй краіне распачаліся матуры (экзамены на атэстат сталасці). У першы дзень былі пісьмовыя экзамены па польскай мове, на другі — па матэматыцы. Знаўцы сцвярджаюць, што тэмы па абодвух прадметах былі выбраны нядрэнна, а пра задачы па матэматыцы ў гэтым годзе гавораць, што былі лёгкія.

### XVIII КІРМАШ КНІЖКІ

У Варшаве адбыўся XVIII Міжнародны кірмаш кніжкі. У гэтым годзе ўдзельнічала ў ім значна больш, чым дагэтуль, розных выдавецкіх фірм. З сацыялістычных краін было 113 стаянак з кніжкамі, з капіталістычных — 152 стаянкі. Найбольшую экспазіцыю прадставіла выдавецтва „Международная книга“, якому ў гэтым годзе спаўняецца 50 год. Усё больш узрастае ў нас зацікаўленне навукова-тэхнічнай літаратурай, якую выдае „Международная книга“.

### ПРЭМ'ЕР ІРАНА Ў ПОЛЬШЧЫ

Па запрашэнню прэм'ера Пётра Ярашэвіча прабываў у Польшчы прэм'ер Ірана Амір Абас Гаведа. Гэта першы візіт у Польшчы іранскага прэм'ера. Размовы датычыліся пашырэння супрацоўніцтва і гандлёвага абмену.

### ВАРШАЎСКАМУ ДАГАВОРУ 18 ГОД

Мінула 18 год ад таго часу, калі 14 мая 1955 года сацыялістычныя дзяржавы падпісалі ў Варшаве дагавор аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе, агульна вядомы пад назвай Варшаўскага дагавора. Стварэнне вайскова-палітычнага органа сацыялістычнымі дзяржавамі было адказам на ўзмацненне НАТА і ўключэнне ФРГ у гэты мілітарны пакт.

Варшаўскі дагавор быў і застаецца пактам абаронным. Яго значэнне бачым цяпер, калі стаім на парозе еўрапейскай канферэнцыі бяспекі, ідэю якой высоўвалі ўжо даўно сацыялістычныя дзяржавы.

### 30-ГОДДЗЕ З ДНЯ ЎЗНІКНЕННЯ КАСЦЮШКОЎСКАЙ ДЫВІЗІІ

Мінула 30 год, калі ў лагеры ў Сельцах над Акой сфарміравалася І польская дывізія імя Т. Касцюшкі. Камандзірам яе стаў генерал Зыгмунт Берлінг. (вл)

## ВАЯВОДСТВА

### ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ

У сувязі з 28-ай гадавінай перамогі над фашызмам і 30-годдзем Народнага Войска Польскага адбылася сустрэча ветэранаў ІІ сусветнай вайны з прадстаўнікамі ўлады. На ўрачыстасці прысутнічалі віцэ-міністр асветы і выхавання ген. дыв. З. Гушча, старшыня Прэзідыума ВРН З. Спрыха, сакратар ВК ПАРП Ул. Юшкевіч і іншыя. 259 ветэранаў былі ўзнагароджаны медалямі „За ўдзел у баях за Берлін“. З мастацкай часткай выступілі вучні ІІ агульнаадукацыйнага ліцэя.

У гэты дзень віцэ-міністр асветы і выхавання ген. дыв. З. Гушча сустрэўся з групай беластоцкіх настаўнікаў-удзельнікаў ІІ сусветнай вайны. Шэрагу настаўнікаў былі ўручаны медалі „За заслугі ў абароне краіны“.

Вечарам вуліцамі Беластока прайшла дэманстрацыя. Гэта дэлегацыі партыі і палітычных страннiцтваў, прадпрыемстваў і ўстаноў, школ і маладзёжных арганізацый пад гукі аркестраў кіраваліся на ўрачысты мітынг, які адбыўся ля Помніка Удзячнасці на Плянтах.

### ЛІПСКУ — КРЫЖ ГРУНВАЛЬДА

За асаблівыя заслугі ў барацьбе з гітлерызмам, за актыўны ўдзел ва ўмацоўванні народнай ўлады вёска Ліпск у Дуброўскім павеце ўзнагароджана Крыжам Грунвальда ІІІ класа. Гэта першая мясцовасць Беласточчыны, якая атрымала такую высокую ўзнагароду.

12 мая ў Ліпску адбыўся вялікі, урачысты мітынг. Прыехалі гаспадары ваяводства — І сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі і старшыня Прэзідыума ВРН З. Спрыха. Прыехалі таксама прадстаўнікі цэнтральных улад: намеснік міністра нацыянальнай абароны ген. дыв. Ю. Урбановіч, кіраўнік адміністрацыйнага аддзела ЦК ПАРП Т. Палімонка, шэф Бюро Рады Міністраў міністр Я. Вячорэк, віцэ-міністр унутраных спраў ген. брыг. М. Мілеўскі, віцэ-міністр па справах ветэранаў С. Куйда, віцэ-міністр культуры і мастацтва Ю. Файкоўскі і віцэ-міністр хімічнай прамысловасці Я. Сідаровіч. Прыехала на ўрачыстасць дэлегацыя з Гродна. Савецкія госці прывезлі урну з зямлёй, сабранай на месцы, дзе летам 1943 года былі расстраляны 50 жыхароў Ліпска. Вечарам адбылася сустрэча жыхароў Ліпска з віцэ-міністрам унутраных спраў ген. брыг. М. Мілеўскім. Ліпск — гэта яго родная мясціна. Тут загінулі ў час гітлераўскай акупацыі бацькі і сястра генерала. Генералу Мілеўскаму ўручаны быў дыплом ганаровага грамадзяніна Ліпска.

### ПЕРАД ДАЖЫНКАМІ

На спецыяльнай нарадзе прадстаўнікоў устаноў, якія непасрэдна звязаны з падрыхтоўкай дажынак, абмяркоўвалася справа дапамогі грамадства ва ўпарадкаванні горада. Ужо шмат працы ўлажылі калектывы розных прадпрыемстваў і ўстаноў. На нарадзе вырашана было выдажыць тры памятныя кніжкі. У іх запішуць усіх, хто будзе працаваць грамадскім чынам. Усе гэтыя людзі атрымаюць права бясплатна глядзець генеральную рэпетыцыю дажынак. Адначасова арганізацыйны камітэт звяртаецца да ўсіх жыхароў горада з просьбай масава ўдзельнічаць ва ўпарадкаванні горада. (яч)




**Niedziela 20.V.**
7.30 Program dnia. 7.35 TV Kurs Rolniczy. 8.10 „Przypominamy, radzimy”. 8.20 „Alarm przeciwpożarowy trwa”. 8.30 „Nowoczesność w domu i zagrodzie”. 9.00 TELERANEK. 10.20 „Nie zakłócajcie im spokoju” — film ang. („Świat, który nie może zaginąć”). 10.45 „Muzy bez etatu”. 11.15 „Piórkiem i węglem”. 11.45 Dziennik. 12.00 „W starym kinie”. 13.00 „Spotkanie w Kątach Wrocławskich”. 13.30 Teatrzyk dla Przedszkolaków. 14.15 Losowanie Totolotka. 14.30 „Śladami Piastów Śląskich” — Głogów. 15.00 „Z Planetarium w Olsztynie” — teleturniej. 16.00 Sprawozdanie z trasy XXVI Wyścigu Pokoju. 17.10 „Rabunek złota” — film fab. 18.00 „Kryteria”. 18.15 „Tele-Echo”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Konkury” — film ang. („Elżbieta, królowa Anglii”) odc. II. 21.45 PKF. 2155 „Dobry wieczór — tu Łódź” — program rewiowy. 22.55 Magazyn sportowy. Kronika Wyścigu Pokoju.

**Poniedziałek 21.V.**
12.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 15.20 i 23.15 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec”, „Obserwatorium”. 17.30 „Echo stadionu”. 17.55 TV Kurier Białostocki. 18.10 „Oferty”. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Eureka”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr TV. 21.45 „Kulturhuset” czyli w Sztokholmie o kulturze. 22.15 Dziennik. 22.30 Wiadomości sportowe. Kronika Wyścigu Pokoju. 22.50 „Gra HAGAW”.

**Wtorek 22.V.**
9.25 „Konkury” — film ang. („Elżbieta, królowa Anglii”) odc. II. 10.55 Dla szkół: (kl. VI) Język polski — „Spotkanie z pisarzem”. 11.20 „Ich praca” — film dok. radz. 12.45 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — J. Ursyn Niemcewicz „Powrót posła”. 15.10 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 15.55 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 16.25 Program dnia. 16.30 Sprawozdanie z XXVI Wyścigu Pokoju. 17.30 Dziennik. 17.40 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.20 TV Kurier Mazowiecki. 18.40 POLITYKA DLA WSZYSTKICH. 19.10 „Przypominamy, radzimy”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Śniadanie u Tiffaniego” — film fab. USA. 22.05 „Kontakty”. 22.35 Dziennik. 22.50 Kronika Wyścigu Pokoju. Wiadomości sportowe.

**Środa 23.V.**
9.00 „Śniadanie u Tiffaniego” — film fab. USA. 10.55 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Kazimierz Wielki”. 11.25 „Świat wiedeńskich dachów” — film dok. austr. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Atom i energia”. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 13.20 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 14.00 „Wybieramy zawód”. 15.05 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.10 Program dnia. 16.15 „Informacje, Towary, Propozycje”. 16.30 Sprawozdanie z trasy XXVI Wyścigu Pokoju. 17.25 Dziennik. 17.35 Dla młodych widzów. 18.00 „Szczeciński rok przyśpieszenia”. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Perspektywy techniki”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Trudna zima” — film radz. („Cienie zanikają w południe”) odc. VI. 21.25 Publicystyka międzynarodowa. 21.55 „Artyści, których podziwiamy” — Halina Łukomska. 22.50 Dziennik. 23.05 Kronika Wyścigu Pokoju. Wiadomości sportowe.

**Czwartek 24.V.**
8.45 „Trudna zima”— film radz. („Cienie zanikają w południe”) odc. VI. 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Kosynierzy Kościuszki”. 10.55 Dla szkół: (kl. I—III lic.) Język polski — „Aktualności muzyczne”. 14.00 Matematyka w szkole. 15.10 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 15.45 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 16.15 Program dnia. 16.20 PKF. 16.30 Sprawozdanie z trasy XXVI Wyścigu Pokoju. 17.30 Dziennik. 17.40 Ekran z bratkiem. 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 „Kulturalne ścieżki”. 19.10 „Przypominamy, radzimy”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr Sensacji: J. Janicki — „Akcja V”. 21.25 „Bez togi”. 22.00 „Pokaż co potrafisz” — program estradowy. 22.45 Dziennik. 23.00 Kronika Wyścigu Pokoju. Wiadomości sportowe.

**Piątek 25.V.**
9.25 „Ucieczka” — film radz. cz. I. 10.55 Dla szkół: (kl. III) „A czy znasz ty bracie młody?”. 11.10 „Twarzą ku słońcu” — film dok. TV radz. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Cement”. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 15.05 i 23.20 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.10 Program dnia. 16.15 Telereklama. 16.30 Sprawozdanie z trasy XXVI Wyścigu Pokoju. 17.30 Dziennik. 17.40 „Nie tylko dla pań”. 18.00 „Gramy o telewizor”. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Portret miasta” — rep. o Łodzi — cz. II. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Canzonissima” — program rozr. wł. 20.55 „Panorama”. 21.35 Teatr TV: E. Szuster — „Dwie twarze ojca”. 22.40 Dziennik. 22.25 Kronika Wyścigu Pokoju. Wiadomości sportowe.

**Sobota 26.V.**
8.50 „Ucieczka” — film fab. radz. cz. II. 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — „W Zatoce Perskiej”. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII:) Nauka o człowieku — „Sprawy 15-latków”. 13.15 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 13.50 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 14.20 Program dnia. 14.25 Sprawozdanie z trasy XXVI Wyścigu Pokoju. 15.30 Program I proponuje. 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.05 TV Informator Wydawniczy. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Nie ma jak u mamy”. 17.05 Teatr Młodego Widza. 17.45 „Turystyka, wypoczynek, relaks”. 18.05 „Godzina Orfeusza”. 18.50 Dobranoc. 19.00 Monitor. 19.45 Sprawozdanie z XXVI Wyścigu Pokoju. 20.30 „Morskie opowieści” — program rozr. 21.15 Dziennik. Wiadomości sportowe. 21.40 „Pokój w mieście” — film fab. ang. 22.30 Program rozrywkowy.




**Piątek, 18 maja**

8.30 Koncert. 9.10 Szkoła szachowa. 9.40 Filmy dokument. 14.10 Program dnia. 15.15 Film TV. 16.10 Program muzyczny. 17.30 Spektakl. 19.00 Czas. 19.45 Koncert.

**Sobota, 19 maja**

7.00 Program dnia. 7.30 Koncert. 9.00 Przegląd międzynarodowy. 10.15 Film fab. 12.30 Spotkania muzyczne. 14.10 Filmy animowane. 16.30 Mozaika muzyczna. 16.55 Piłka nożna. „Zaria” (Woroszyłowgrad) — „Dynamo” (Kijów). 2 połowa. 18.00 W świecie zwierząt. 19.00 Czas. 19.30 Koncert. 20.30 Mistrzostwa ZSRR w gimnastyce.

**Niedziela, 20 maja**

7.00 Program dnia. 8.00 Dla żołnierzy. 8.30 Kiosk muzyczny. 10.30 Program muzyczny. 11.00 Konkurs młodych piosenkarzy. 13.35 Film fab. 15.00 Klub filmowy. 16.10 Filmy animowane. 17.30 Wieczór autorski kompozytora M. Bogusławskiego. Transmisja z Sali Kolumnowej. 19.00 Czas. 19.30 c. d. transmisji z Sali Kolumnowej. 20.30 Program sportowy.

 © PDF: Kamunikat.org 2023

НА ПРЫКЛАДЗЕ НАРАЎСКАЙ ГМІНЫ

# АКТЫВІСТЫ АД ХВАСТА

Адразу ў пачатку нашай гутаркі начальнік Нараўскай гміны Віталіс Пякарскі заяўляе, што рашылі яны лепш кіраваць сельскай гаспадаркай на сваёй тэрыторыі. Тут гэта асноўная і адзіная галіна вытворчасці. Узровень дабрабыту мясцовага насельніцтва залежыць толькі і выключна ад уласнай гаспадарнасці, ад умелага выкарыстання багацця, якім з'яўляецца зямля.

— Каб вы пабывалі на апошняй сесіі нашай гміннай рады! — гаворыць начальнік. — Каб пачулі выступленні і галасы ў дыскусіі!

Сесія адбылася ў апошнія дні красавіка. З пратакола і іншых дакументаў можна зрабіць вывад, што характарызавала яе шчырасць і канкрэтнасць. Проста мылі тут усім галовы, аж шум ішоў! А пачыналі ад сябе, ад радных, ад солтысаў, ад грамадскіх дзеячоў, ад людзей, якія абавязаны абуджаць дысцыпліну і грамадскую актыўнасць у другіх, у суседзяў і аднавяскоўцаў. Сухой ніткі на іх не аставілі. Бо сапраўды, сабраўшы ўсіх іх разам, гэтых актывістаў, змаглі б мы засяліць не малую вёску, якая налічвала б больш-менш 100 гаспадароў. Столькі ёсць іх ў Нараўскай гміне.

Абавязаны яны былі купіць — і прымяніць на сваіх палях! — 63 тоны чыстага мінеральнага ўгнаення. Гэта дакладна падлічыла сельскагаспадарчая служба. Аказваецца, што ледзь 36 чалавек сярод іх поўнасцю выканала гэты асноўны абавязак прыкладнага гаспадара. Асабліва добры прыклад паказалі **Павел Каспровіч** з Агароднікаў, **Язэп Канажэўскі** з Даратынкі, **Ян Дамброўскі** з Істоку, **Аляксей Аксенюк** з Козлікаў, **Мікалай Астапчук** з Кавелы. Яны не пашкадавалі грошай на штучныя ўгнаенні і ведаюць, што на гэтым не прайграюць. Ян Дамброўскі з Істока (пра яго неўзабаве напішам шырэй) гаварыў мне для прыкладу, што ён кожны год купляе дзве і больш чым дзве свае нормы, хаця натуральнага, жывёльнага гною мае столькі, што не ведае куды яго падзець.

Але аж 44 радныя, солтысы і розныя нібы-актывісты выкупілі ледзь палавіну, або нямнога больш за палавіну сваёй гадовай нормы. 17 з іх зусім не захацелі ў сваіх гаспадарках прымяняць мінеральныя ўгнаенні, або купілі столькі, як кот наплакаў, або кошка набрахала. Дык гнаць мяцёлкай такіх, з божай ласкі, актывістаў, каб людзей не смяшылі, каб іншыя сяляне не спасылаліся на іх „прыклад". Моў, ён — актывіст — не бярэ гэтага попелу, а я буду браць.

На жаль, у Нараўскай гміне многа, надта ж многа сялян мела б ахвоту адклікацца да адмоўных, самых горшых прыкладаў. У вёсках **Цімохі, Рыбакі, Ваські, Ванева, Кутавая знайшлося ледзь па адным гаспадары,** якія купілі столькі мінеральных угнаенняў, колькі прадбачыла норма для іх зямельных угоддзяў. А іншыя?

— Лепш не гаварыць, бо сорамна, — сцвярджае начальнік Пякарскі і адводзіць вочы недзе ўбок, як бы гэта ён быў вінаваты ў тым, што сяляне яго гміны не зацікаўлены ў прымяненні штучных угнаенняў, без якіх цяжка ўявіць сучасную сельскую гаспадарку.

— Дык чаму людзі не выконваюць нормаў прымянення штучных угнаенняў? Ці яны завысокія?

— А дзе ж там! — усклікае начальнік. — Толькі 92 кілаграмы хімічна чыстага рэчыва. Гэта ніжэй ваяводскага ўзроўню, гэта ніжэй сапраўдных патрэб.

— Дык чаму?

Настае даўжэйшае маўчанне. Начальнік Пякарскі паціскае толькі плячыма. Цішыню спыняе Міхась Кучко, інструктар павятовага камітэта партыі ў Гайнаўцы.

— Не рабіце такой панікі, — гаворыць ён. — Мы стараемся, як толькі можам. Не ўсюды ў нас так аднолькава дрэнна. Вось для прыкладу ў Адрынках, Іванках, або ў Істоку больш-менш 90% гаспадароў поўнасцю купілі належныя ім штучныя ўгнаенні.

Так, гэта праўда. Назваць тут можна яшчэ некаторыя іншыя вёскі, многія сяляне забралі поўныя дозы гэтых угнаенняў. Аднак больш яшчэ такіх вёсак і гаспадароў, якія не купілі нічога са штучных угнаенняў, або купілі зусім мала. У самай Нарве налічым такіх гаспадароў — 98, у Тыневічах Малых і Вялікіх (разам) — 61, у Макаўцы — 31, у Храбустоўцы — 17. А гэта куды яшчэ не поўны пералік гэтых „перадавікоў" ад хваста.

Чаму яно так ёсць?

**Віктар Рудчык**

## ФАЛЬКЛОР

### СЯМЕЙНАЯ

Moderato



Ой, ба-ліць жа га-ло-вань-ка — Ня-ма чым звя-за-ці. Па-шла бы я



до ма-ту-лі — Не-кім на-ка-за-ці.

*Ой, баліць жа галованька —*
*Няма чым звязаці.*
*Пашла бы я да матулі —*
*Некім наказаці.*
*Ой, сарву я ружы кветку*
*Ды пушчу на воду.*
*Плыві, плыві, ружа-кветка,*
*Да самого броду.*
*Плыла, плыла ружа-кветка,*
*Ды стала круціцца.*
*Вышла маці воду браці*
*Ды стала дзівіцца:*
*— Што ж ты мая, ружа-кветка,*
*На вадзе завяла?*
*Відаць доўго ты, дзіцятка,*
*На мяне чакала...*
*Выпі, маці, ту вадзіцу,*
*Што я нанасіла —*
*Любі, маці, таго зяця,*
*Што я палюбіла.*
*— Я не буду вады піці —*
*Буду разліваці.*
*Нелюбого таго зяця*
*Буду праклінаці.*
*— Не разлівай, маці, воду,*
*Бо цяжка насіці.*
*Не праклінай, маці, зяця,*
*Не будзеш з ім жыці.*
*Не праклінай, маці, зяця,*
*Не будзеш з ім жыці.*

Ад вядомага дзеяча на ніве беларускай народнай культуры ў Польшчы, Ніны Мушынскай, 1910 года нараджэння, якая жыве ў мястэчку Гарадок, Беластоцкага павету, запісаў 24 студзеня 1973 г. Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіў Эдуард Гойлік.

# УЗЯЛІСЯ ЗА РАБОТУ

У Нараўцы Гайнаўскага павету былі добрыя спартыўныя традыцыі. Некалькі гадоў таму назад была тут шырока разгорнута праца пры пабудове новай спортпляцоўкі, якую мясцовыя жыхары называлі нават спартыўным стадыёнам. Знайшоўся пляц, на якім паставілі вароты, вызначылі лініі, а нават паставілі лавачкі для балельшчыкаў. Побач прыспасобілі будыначак на раздзявальню і на ўсе спартыўныя прылады. Навокал стадыёна паявіўся нават паркан. Нямнога заставалася да заканчэння пабудовы вельмі патрэбнай і доўгачаканай спартыўнай пляцоўкі. Але, як кажуць, тут забракла пораху. Неяк апусцілі рукі мясцовыя актывісты.

Міналі гады. У міжчасе заваліўся дах над раздзявальняй, разваліўся паркан, а спрытнейшыя гаспадары пачалі пускаць на стадыён кароў, паколькі спартыўная пляцоўка прарасла сачыстай травою. Зусім зваліліся пад ногі некалі парадныя вароты ля ўваходу на спартыўную пляцоўку.

Але надыйшла вясна ў гэтым годзе. Наш рэпарцёр прыкмеціў зусім неспа-



дзявана людзей на месцы забытага ўсімі стадыёна. Мужчыны ўвіхаліся з рыдлёўкамі, раўнялі пляц, нанава пракладалі бегавую дарожку... Наш рэпарцёр зрабіў здымак. Інакш яму б маглі не паверыць. Мінула ж столькі часу... і раптам! Цешыць нас факт, што нараўчане маюць свой гонар і хочуць будову стадыёна давесці да канца. Мо на гэты раз ім удасца. Жадаем поспехаў. Ахвотна прыедзем паглядзець спартыўныя розыгрышы на новым нараўкаўскім стадыёне

**Тэкст і фота (ця)**

Германіі і ў іншыя краіны. Зацікаўленне ў Еўропе вырошчваннем супрасльскай сасны вельмі вялікае.

Ляснічы з Падсупраслі Ежы Хвашчэўскі — абсальвент Ляснога тэхнікума ў Белавежы, шматгадовы і вопытны працаўнік лесу. На леташняй вырубцы ён падводзіць мяне да групы самотных паднебных сосен.

— Вось яна — адна з нашых слаўных 23-ох, — гладзіць ён рукою па шурпатым камлі з вымаляванымі каляровымі паясамі ды рознымі нумарамі. Спрабую глянуць на верхавіну дрэва — з галавы спадае шапка. — Яна вышэй, чым 12-ціпавярховы дом. Таму да зрывання шышак і зрэзвання чаранкоў ужываем спецыяльнай, купленай у Швецыі, драбіны. Робіць гэта адпаведна падрыхтаваны на курсах у Курніку (каля Познані) чалавек, які мае вельмі добрае здароўе і не баіцца вышыні. Сабраныя шышкі накіроўваем у спецыяльную лушчарню, а чаранкі захоўваем нейкі час у халадзільніках. Збор чаранкоў і прышчэпліванне адбываецца ў жніўні месяцы.

У гадавальніку ў Рамучэве, што знаходзіцца ў 3 км ад Супраслі, на плошчы каля 2,5 га роўнымі радочкамі растуць шчэпленыя сосны. І толькі яны, бо ўся ралля вакол іх узрыхлена і выпалата з пустазелля да найменшага каліўца. Пры кожным прышчэпе на адмысловым слупку прымацавана таблічка з дакладнай датай шчапення і нумарам сасны, з якой узяты чаранок. Вакол гадавальніка створаны спецыяльны пояс, на якім



*Адна з 23 супрасльскіх сосен-прыгажуняў.*

не расце ніводная сасна. Гэта для забеспячэння ад запылення кветак шчэпленай сасны пыльцой якога-небудзь не пажаданага сасновага дрэва.

— Шчэпленую сасну вырошчваем па тое, каб як мага хутчэй павялічыць колькасць насення і зрабіць больш бяспечным яго збор, — паясняе Е. Хвашчэўскі. — Пятнаццаціcount гадовая шчэпленая сасна дае ўжо нармальнае насенне, і збор яго не такі цяжкі і небяспечны, бо дрэва расце невысокае і разгалістае. Саджанцы, вырашчаныя з гэтага насення, пойдуць на пасадку лесу, які „даспее" на вырубку недзе ў 2100 годзе. Апрача гэтага вядзем спецыяльныя селекцыйныя працы над вырошчваннем элітарнага насення, паходзячага з гэтых 23 незвычайных сосен. Каб атрымаць гарантаваную „эліту", неабходна выгадаваць тры пакаленні сосен. Сасна дае насенне недзе ва ўзросце 50—70 год, значыць, элітарнае насенне селекцыйнай супрасльскай сасны атрымаюць нашыя нашчадкі недзе каля 2150 года, а вырубка дрэва і скарыстанне яго ў прамысловасці наступіць аж каля 2300 года. Як бачыце, працуем мы сёння для вельмі далёкай будучыні. Гадавальнік у Рамучэве з кожным годам пашыраецца. І слава супрасльскай сасны не можа загаснуць ніколі...

Ужо пакідаючы Супрасльскае надлясніцтва, я даведаўся, што і цяпер на міжнародных рынках драўніна з тартака ў Супраслі цэніцца вельмі высока.

**Мікалай Гайдук**
**Фота аўтара**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Працаўніку была дэнансіравана ўмова працы і праз тры месяцы мела яна быць развязана. Працаўнік адклікаўся да вышэйшай улады, бароначыся тым, што ён адзіны карміцель сям'і. Не чакаючы адказу, прадпрыемства загадала працаўніку прыступіць да здачы даверанай яму маёмасці. Працаўнік адмовіўся выканаць загад. Прадпрыемства неадкладна звольніла яго з працы. Ці правільна паступіла прадпрыемства?

АДКАЗ: За адмову выканання загаду здачы маёмасці — за згодай закладовай рады — прадпрыемства магло звольніць працаўніка неадкладна нават тады, калі б умова працы была перад гэтым дэнансіравана няправільна і скарга працаўніка не была разгледжана. Працаўнік не можа адмаўляцца ад выканання загаду начальніка, калі ён не з'яўляецца бяспраўным. Паколькі працаўніку дагавор быў дэнансіраваны, начальнік мог загадаць яму здаць дааверaную яму маёмасць, не чакаючы разгледжання вышэйшымі ўладамі скаргі працаўніка. Працаўнік можа дабівацца сваіх правоў, калі паводле яго погляду яны парушаны, але адмовіцца ад выканання загаду нельга, бо гэта дае працадаўцы магчымасць неадкладна звольніць працаўніка з працы.



 © PDF: Kamunikat.org 2023

# ТРЫБУНА чытачоў

## ПАВЕДАМЛЕННЕ

W związku z podjęciem przez Trybunę Ludu, Polskie Radio i Telewizję tematu „od czystości do gospodarności" dla kompleksowego działania na rzecz poprawy stanu sanitarnego kraju Wojewódzki Sztab d/s Poprawy Stanu Sanitarnego Województwa Białostockiego włącza się do tej akcji poprzez zorganizowanie od dnia 2 maja codziennego dyżuru swoich przedstawicieli w Sekretariacie Wojewódzkiej Stacji Sanitarno-Epidemiologicznej w Białymstoku, ul. Dzierżyńskiego 8 w godz. 14.00 do 17.00, do których zainteresowani Ob. Ob. mogą zgłaszać telefonicznie na numery 50-11, 250-13 lub osobiście zauważone na terenie województwa braki w zakresie ładu, porządku i czystości.




### МАЯ ВЁСКА

Вёска Дубяжына мая ты,
Два домікі засталіся
У сорак пятым.

Цяпер адбудавалася ты,
Усе новыя хаты.
Жывуць у іх народжаныя
У сорак пятым.

### БУДЗЕМ

*Прысвячаю хору з маёй вёскі*

Будзем мы спяваці
Па ўсёй краіне,
Каб пачула маці,
Што песня не гіне.

Заспяваем песні,
Што маці спявала,
Калі нас ў калысцы
Шчыра калыхала.

Многа знаем песень
Пра хлопцаў дубяскіх,
Што пелі ў нядолі
І ў змаганнях цяжкіх.

Мы ўсе маладыя
Харысты дубяскі
Не забудзем, маці,
Тваіх песень ласкі.

### ВАСІЛЁЧКІ

*Прысвячаю бельскаму хору*

Знаюць нас кругом
На роднай Беласточчыне,
Знаюць і ў Быдгоскім,
Па цэлай краіне.

Даўно ўжо спяваем
Песні свае родныя,
А ў іх каханне да
Краіны народнай.

Беларускім хорам
Усе нас называлі,
Калі мы „за морам"
Весела спявалі.

А цяпер спяваем
Мы „Чорныя вочкі",
Бо ўжо назваліся
Хорам „Васілёчкі".

**Аляксандр Раманюк,**
**Дубяжына**

**Дарагое „Сэрцайка"!**

Мне ўжо амаль 20 год. Працую я ў горадзе. Аднойчы была я з сяброўкай на вечарыне і там пазнаёмілася з Юзкам. Гулялі мы з ім цэлы вечар. Калі вечарына закончылася, Юзэк правёў мяне на кватэру. Ад гэтага вечара мы амаль кожны вечар з ім спатыкаемся. Хаця старэйшы ён ад мяне на 15 гадоў, але выглядае молада, а гумару можа яму пазайздросціць не адзін малады хлапец. Была я ўжо з ім у маіх бацькоў на вёсцы. Бацькам ён спадабаўся. Вельмі ветліва да іх адносіўся. І было б усё добра, але аднойчы прыйшла да мяне сяброўка, з якой мы тады былі на забаве, і сказала, што чула, што Юзэк мае жонку і дзіця. Думала я, што гэта нейкая хлусня. І пры першай сустрэчы сказала аб гэтым Юзку. А ён успрыняў гэта зусім спакойна і прызнаўся, што жанаты. Сказаў, што жонку рэдка наведвае, яна на вёсцы, і што мае намер узяць з ёю развод. А што ёсць дзіця — дык будзе плаціць аліменты, і справа ўладкавана. Кажа, што добра зарабляе, дык хопіць на ўсё. Але мала таго, дык яшчэ прызнаўся, што гэта яго другая жонка. З першай дзяцей не мае. Разышоўся, бо характар кепскі мела — сварылася, калі п'яны дамоў вяртаўся. А выпіць ён любіць, бо і да мяне часта падхмелены прыходзіць. Я на гэта ўвагі не звяртаю. Часамі і скажа нейкую прыкрасць па-п'янаму, але пратрэзвіцца і перапросіць. Я яму




ўсё выбачаю. Аб гэтым усім сказала я бацькам. Не спадзявалася нават, што яны так узбурацца. Знерваваліся страшна і сказалі, каб я яго неадкладна пагнала ад сябе і на парог не ўпусціла гэтага хлыстка. Я не ведаю, што рабіць. Юзка я кахаю і парваць мне з ім будзе цяжка. Парай мне, „Сэрцайка". Буду табе за гэта вельмі ўдзячна.

**Гражына з Сакольшчыны**

Гражына! Я поўнасцю згаджаюся з тваімі бацькамі. Ты як найхутчэй павінна парваць з Юзкам. Разумею, што нялёгка табе будзе зрабіць гэты крок, бо ты закаханая, але гэта неабходна. Каханне, як дымная заслона, закрывае сабой усё дрэннае. Сумняваюся, каб Юзэк быў салідным мужчынам, калі ўжо трэцяй жонкі шукае. А якая ж пэўнасць, што ажаніўшыся з табой, не задумае шукаць і чацвертай? Ну, і кажаш, у кілішак часценька заглядае — гэта справа ў жыцці неабыякавая, хоць цяпер яна табе здаецца дробяззю. Ты яшчэ маладая і нявопытная жыццёва дзяўчына. І, па-мойму, лепш крыху пацярпець цяпер, чымсьці змарнаваць сабе жыццё.

**„Сэрцайка"**

праўдны галаўны ўбор палінезійскага правадыра, ён і гэта дастане! Акрамя таго, у яго вялікія сувязі — там... — Пры гэтым Мельцар рабіў значныя вочы, паказваючы ў столь. — Крыху лёгкадумны. Ды гэта і зразумела: стары халасцяк, з дзівацтвамі. Але поўнасцю адданы і вопытны чалавек. Між іншым, ён малюе — і зусім нядрэнна, — я бачыў некалькі яго карцін. Напэўна іх хапіла б на невялікую выстаўку.

Вось з гэтых карцін і пачаўся канфлікт Лібеля з Іахімам Клецам. Неўзабаве пасля паяўлення оберштурмбанфюрэра ў аддзеле „Заграніца" неяк вечарам ён спыніў Лібеля ў калідоры і, яўна жадаючы паказаць, што ведае асабістыя справы супрацоўнікаў, сказаў:

— Я раю вам, пан Лібель, у наступны раз складаць свае фінансавыя справаздачы менш паспешліва. Я разумею, гэта сумна, запаўняць справаздачы зусім не тое, што маляваць карцінкі. — Ён засмяяўся, лічачы, што пажартаваў.

Праўда, фінансавыя справаздачы ніяк не ўваходзілі ў кампетэнцыю оберштурмбанфюрэра СД, але „пракляты паліцай" лез усюды.

Лібель памаўчаў, а затым, калі Клец скончыў смяяцца, адказаў:

— Цікавасць да жывапісу ніколі не перашкаджае мне несці службу, пан оберштурмбанфюрэр. Дарэчы, ёю займаюцца часам і вялікія людзі.

Клец зразумеў: Лібель намякаў на Гітлера, які ў пачатку сваёй кар'еры маляваў дэкарацыі.

Аднак паліцэйскі інспектар быў не з тых, хто лезе ў кішэню за словам.

— Я добра ведаю, чым займаюцца людзі і вялікія і радавыя, — адсек ён. — Гэта мая прафесія!

З таго часу оберштурмбанфюрэр, які насіў на мундзіры крыж з дубовым лісцем за карныя экспедыцыі, не раз у прысутнасці Лібеля заводзіў размовы пра „людзей, якія не нюхалі фронту", і нават пра людзей, якім „варта было б панюхаць фронт".

У тую раніцу, калі Лібель з'явіўся ў кабінет Мельцара, прысутнасць там Клеца магла азначаць, што справа мае надзвычайную важнасць. У руках у Мельцара Лібель убачыў тэлеграму.

— Прашу вас, пан обер-лейтэнант, сустрэць, захоўваючы ўсе правілы канспірацыі, чалавека, пра якога тут ідзе гутарка, — сказаў падпалкоўнік, працягваючы Лібелю тэлеграму. — Пасяліце яго ў адной з нашых кватэр. Затым далажыце мне і... — Мельцар зрабіў паўзу, — оберштурмбанфюрэру Клецу. Пароль — „Цыклон".

(Працяг будзе)

## Падвядзенне вынікаў працы сельгасгурткоў Сакольшчыны

15 красавіка гэтага года ў Саколцы адбыўся павятовы з'езд сельскагаспадарчых гурткоў. Прысутнічала 213 дэлегатаў. З'езд падвёў вынікі працы за 1972 год і накрэсліў заданні на далейшыя гады.

На Сакольшчыне ёсць 213 сельгасгурткоў. Яны апрацоўваюць 3044 гектары зямлі дзяржаўнага фонду і робяць розныя паслугі людзям. Маёмасць сельгасгурткоў павету складае вартасць 138 млн. злотых. У іх распараджэнні 505 трактараў з поўным камплектам машын і 77 камбайнаў.

У 1972 годзе сельгасгурткі Сакольшчыны дабіліся добрага ўраджаю збожжа. Агулам з гектара выйшла 17 цэнтнераў, а гурток у Гуранах дабіўся 25 цэнтнераў. У Крынках было 22 цэнтнеры.

У гміне Шудзялава тры сельгасгурткі: Піражкі, Паўночны Востраў і Слойка. Разам яны апрацоўваюць 812 гектараў зямлі дзяржаўнага фонду. Гурток у Піражках рыхтуе хлеў на 260 штук свіней, а ў Паўночным Востраве — на 90 штук.

Найбольш зямлі дзяржаўнага фонду апрацоўвае на Сакольшчыне гурток з Крушынян: 520 гектараў. Апрача чатырох асноўных збожжавых, вырошчвае ён шмат грэчкі і лубіну.

У мінулым годзе амаль усе сельгасгурткі Сакольшчыны атрымалі даход. Страты былі толькі ў Сідры і Бомблі. Гурток з Сідры меў звыш мільёна злотых страт. Тут старшыня не ведаў, што робіць дыспетчар, а той не ведаў, што робяць трактарысты.

Трэба яшчэ адзначыць, што сельгасгурткі Сакольшчыны многа памаглі радам пры рамонце дарог і давозе штучных угнаенняў.

А. С.

## АБАВЯЗКОВА НАВЕДАЙЦЕ

Турыстычны пасёлак Белавежа размешчаны на вялікай паляне ў самым цэнтры Белавежскай пушчы. Кожны год у нас вельмі многа турыстаў. Перш за ўсё цікавяцца яны зубрамі і запаведнікам прыроды. Зімою турысты едуць кулікам у пушчу, дзе галоўным гвоздзем праграмы з'яўляецца гарачы бігас.

Турыстаў вабіць таксама гісторыя нашай мясціны. Палявалі тут польскія каралі і рускія цары. Быў палац, пабудаваны царом, у ім ён жыў у час паляванняў. Немцы палац спалілі. Цяпер засталіся толькі разваліны і рэшткі брамы.

Белавежа ўвесь час разбудоўваецца. Прыцягвае ўвагу новая гасцініца „Іва". У правым крыле яе знаходзіцца прыродазнаўчы музей. Другім музеем, які варта наведаць, з'яўляецца этнаграфічны музей, які знаходзіцца на вуліцы Стачок. У ім вы ўбачыце народныя ўборы і прылады, якімі карысталіся нашыя продкі. Хто не быў яшчэ ў Белавежы, той абавязкова павінен наведаць цудоўны куток.

К. Т.

## АПЛОЦІЦЦА

У Дубічах Царкоўных адкрыўся скупачны пункт бульбы. Не бракуе тут фурманак з гэтым таварам. Напэўна сялянам аплоціцца прадаць бульбу за такія грошы: кантрактаваная — 160 злотых за цэнтнер, „вольнарынкавая" — 150 злотых.

Бульбу прымае кладаўшчык Васіль Нікалаюк з Дубіч Царкоўных.

**М. Панфілюк**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

Я цікаўлюся фільмам і спортам, збіраю паштоўкі з краявідамі і гукавымі запісамі. Хацеў бы таксама падыскутаваць з дзяўчатамі і хлопцамі. Мой адрас:

Eugeniusz Miruć, zam. Bieńdziuga 9, 16-053 Juszkowy Gród, pow. Białystok.




**Аляксей Данілюк, Зубава.** У справе электрыфікацыі зубаўскіх калоній мы спраўляліся ў „Эльвадзе". Нам сказалі, што адказ на вашу заяву вам высланы. Электрыфікацыя вашых калоній прадбачана планам на 1974 год. Раней прадпрыемства нічога зрабіць не можа.

**„Наглядальнік".** У інфармацыі „Парадак" вы не назвалі мясцовасці, дзе зроблен парадак. Невядома таксама, якая школа гэта зрабіла. Школа падставовая — гэта мала. Трэба абавязкова пісаць і з якой вёскі.

ЧЫТАЙЦЕ : РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ „Ніву"!

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Morderca na zawołanie" (NRD), 22—23. „Poławiacze gąbek" (radz.) 24—25. „Bez wyraźnych motywów" (franc.), 26—27.

**Нараўка**
„Kajtek i nowy braciszek" (węgierski), „Poszukiwanie" (hiszp.), 3—27.

**Нарва**
„Morderca jest w domu" (węgierski), „Przygody psa Cywila" (polski), 23—27.

**Чыжы**
„Trzy kobiety" (polski), „Ranny w lesie" (polski), 23—27.

**Дубічы Царкоўныя**
„Agnieszka 46" (polski), „Żandarm z gór" (bułg.), 23—27.

**Арэшкава**
„Dzikie dziecko" (franc.), „Dawid Copperfield" (angl.), 23—27.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Trzecia część nocy" (polski), „Kochany drapieżnik" (radz.), 23—27.

**Орля**
„Lekcja odwagi" (czeski), „Śmierć Ipu" (rumuński), 3—27.

**Райск**
„Przygody psa Cywila" (polski), „Milion lat przed naszą erą" (angl.), 23—27.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**
„Rycerz szklanego ekranu" (węgierski), „Dzień, w którym wypłynęła ryba" (grecki), 23—27.

**Янаў**
„Ktoś za drzwiami" (franc.), 23—27.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„150 na godzinę" (polski), 22—23. „Labirynt miłości" (radz.), 24—5. „100 karabinów" (USA), 26—27.

**Мельнік**
„Nieznany" (polski), 22—23. „Dwaj panowie bez parasola" (rumuński), 24—25. „150 na godzinę" (polski), 26—27.

**Мілейчыцы**
„Mściciel z przeklętej góry" (jugosł.), 2—23. „Wujaszek Wania" (radz.), 24—25. „Tajemnica Aleksandra Dumasa" (czeski), 26—27.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Rewizja osobista" (polski), Śmierć na zakręcie"(NRD), 23—27.

**Новы Двор**
„12 krzeseł" (radz.), „Trup w każdej szafie" (czeski), 23—27.

**Ніва**

Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch". Redaguje Kolegium. Adres Redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Numer przy przesyłkach pocztowych: Redakcja tygodnika „Niwa", Skr. poczt. 281, 15-950 Białystok. Telefony: Redaktor Naczelny i Sekretarz Redakcji 2-10-33, publicyści 2-32-41 do 45 (centrala). Cena prenumeraty krajowej: rocznie: 28,80 zł., półrocznie: 14,40 zł, kwartalnie: 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty. Prenumeraty na kraj dla czytelników indywidualnych przyjmują Urzędy Pocztowe oraz listonosze. Można również wpłaty na prenumeratę indywidualną dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego „Ruch" w Białymstoku 150-6-161 NBP I OM Białystok. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Wszystkie instytucje państwowe i społeczne w miastach, zamawiają prenumeratę wyłącznie za pośrednictwem Oddziałów i Delegatur RSW „Prasa-Książka-Ruch". Pozostałe — mające siedzibę na wsi lub w innych miejscowościach, w których nie ma Oddziałów i Delegatur zamawiają prenumeratę za pośrednictwem Urzędów Pocztowych. Prenumeratę na zagranicę przyjmuje: RSW „Prasa-Książka-Ruch" Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych, Wronia 23, 00-840 Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024. Cena prenumeraty dla zagranicy jest wyższa od prenumeraty krajowej o 40%.

BZGraf. Nakład 8337 K-1

*Успамінаючы рыбную лоўлю...*

**Байка з рэзалюцыяй**

# ІНІЦЫЯТЫВА

Першымі ініцыятыву праявілі Вароны. Выцягвалі яны сабе ракаў у лясным возеры пры першай-лепшай нагодзе і раптам аб'явілі „Тыдзень вылаўлівання ракаў".

Ніхто не мог зразумець, чаму менавіта „тыдзень", калі і без гэтага кожны дзень за ракамі бегалі.

Але так ці інакш, даведаўшыся пра гэта, Буслы тут жа паведамілі, што будуць праводзіць „Дэкаду барацьбы з жабамі".

І далей пайшло!

Свінні аб'явілі „Месячнік барацьбы з жалудамі", Алені — „Тыдзень ачысткі тэрыторыі лесу ад моху", Ластаўкі — „Дэкаду знішчэння мух навокал лесу".

І было гэта адзначана, дзе трэба.

Хоць і ў іншых лясах і ракаў, і жаб, і жалудоў, і моху, і мух было з'едзена столькі ж, а нават сямтам больш, чым тут, аднак гэты лес быў аб'яўлены пераможцам.

Яно і зразумела. Бо ў іншых лясах проста сабе елі. А тут вялі арганізаваную, мэтанакіраваную барацьбу.

А гэта, як вядома, не адно і тое ж.

Рэзалюцыя: „Трэба ў найбліжэйшы час зрабіць усе неабходныя захады адносна лепшага правядзення рознабаковых масавых захадаў".

**А. Крукавец**

*— Раней ён, змагаючыся за мяч, задалёка выходзіў з варот. Давялося прыдумаць гэту прыладу.*

# НІЎКА

*— Антракты ў вас цудоўныя...*

### ДАЕ БОЛЬШ

Джэксан прыйшоў у ламбард і спытаў, колькі ён можа атрымаць за сваю скрыпку.

— Дваццаць пяць долараў.

— Не шмат. Містэр Томсан, які жыве за сцяной, гатоў даць мне пяцьсот!

### ЧАМУ?

Выкладчык: — Чаму вы ўвесь час павышаеце мяне ў званні? Я не прафесар, а дацэнт.

Студэнт: — Я спадзяюся, вы адкажаце мне ўзаемнасцю, ацэньваючы мае веды на экзамене.

### НЕ ЯГО СПРАВА

— Уставай, Хведар! Хлеў наш маланкай падпаліла.

— Не мая справа: на гэта ёсць пажарнікі.

## МІНІВЕРШЫ

### МУЗЫКАЗНАЎЦА

З усіх мелодый любіць ён
бакалаў, шлянак
тонкі звон.

**П. Ларын**

### РОДЗІЧ

Музыку ў людзі вывелі цымбалы,
І майстру новаму ў радню
Усё набівацца бубнач няўдалы.
— Мы родзічы,
Дальбог, я не маню, —
Ён цягне галаском пявучым: —
Калісьці ж на адным сушылі
сонцы мы
Анучы.

**А. Зарыцкі**

### ЗАЎВАГА

— Ды зразумейце ж, —
дырыгент гаворыць
Да маладога спевака:
— У вас арыя тарэадора,
А не быка!

**Б. Слюсар**

*Гарачая прывязанасць.*

...Ён набыў сабе славу снайпера па кіданні каменя ў чужыя агароды.

...Ён заўсёды абапіраўся на актыў. Асабліва пасля банкетаў.

### СКЕПТЫК

Адзін мой знаёмы кнігалюб аднойчы пытаецца ў мяне:

— Вы мне скажыце, чым гэта растлумачыць, што цяпер так мала ў літаратуры вялікіх пісьменнікаў?

— А чаму вы так скептычна на нашу літаратурную дзейнасць глядзіце? — стаўлю яму контрпытанне.

— Можа, я сапраўды скептык. Але я чытаў амаль усе літаратурныя навінкі, а вось ніводнага Міцкевіча, далібог, не бачу.

— Вы дужа памыляецеся, — кажу. — Вы пахадзіце на юбілейныя вечары нашых сучасных літаратараў і паслухайце ўважна прамовы, выступленні, прывітанні, то ад вашага скепсісу толькі дым пойдзе.

Чыстая праўда!

### ПАМЫЛІЎСЯ

Следчы дапытваў аднаго чалавека, які ўкраў боты, але той ніяк не прызнаваўся.

— Падумайце толькі, — сказаў следчы, — вас засудзяць, потым сорамна будзе людзям у вочы глянуць, для ўсёй сям'і ганьба. І ўсё — праз нейкую пару ботаў.

— Ды ямчэ і цесных, — уздыхнуў той.

Тю

### ДАРОСЛЫМ ЗАБАРАНЯЕЦЦА

Па тэлевізару паказалі мультфільм. Да бабулькі, якая глядзела перадачу, падскочыў унук:

— Зараз жа выключы тэлевізар, — сказаў ён. — Дарослым глядзець гэтыя фільмы забараняецца.

— Чаму ж гэта? — здзівілася бабулька.

— А таму, што яны для дзяцей.

## ГУМАР З

### КАЛІ Б МАЯ ВОЛЯ!

Чыхнуў князь, а селянін і гаворыць:
— Тысячу год добрага здароўя!
— Ціха! — закрычаў князь. — Навошта ты мне немагчымага жадаеш?
— Тады жывіце сто дваццаць гадоў!
— Ціха! — разгневаўся князь.
— Тады хоць сто!
Зноў не дагадзіў.
— Восемдзесят!..
І гэта не так.
Знерваваўся селянін і кажа:
— Ды калі б мая воля, дык хоць зараз памірайце!

**(з грузінскага гумару)**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Лінатыпістка беластоцкай друкарні Вера Папова, што набірае „Ніву", прыслала запіску: „Дарую ўсе вашы грахі, калі дастанеце мне песню „Баллада о красках". Грахоў у нас перад ёй нямала, і мы ўзрадаваліся такой прапанове. Нам здалося, што танным коштам адкупімся. Аднак нашы пошукі гэтай песні не давалі ніякіх вынікаў. Урэшце знайшлі мы перакладны тэкст. Добра і гэта: калі не ўсе, дык хоць частку грахоў даруе нам наш строгі заказчык і валадар — падумалі мы і ў мінулым тыдні надрукавалі. А тут раптам сам у рукі трапіў рускі тэкст. Дык даруйце, чытачы, што два разы падрад змяшчаем адну і тую песню. Надта ўжо спакушае думка аб поўным пазбаўленні нас ад грахоў, ды і арыгінал — гэта не пераклад.

# БАЛЛАДА О КРАСКАХ

**Музыка Оскара Фельцмана**
**Слова Роберта Рождественского**

Был он рыжим, как из рыжиков рагу,
Рыжим, словно апельсины на снегу.
Мать шутила, мать весёлою была:
„Я от солнышка сыночка родила".
А другой был чёрным-чёрным у неё,
Чёрным, будто обгоревшее смольё.
Хохотала над расспросами она,
Говорила: „Слишком ночь была черна".

В сорок первом, в сорок памятном году
Прокричали репродукторы беду...
Оба сына — оба-двое, соль земли —
Поклонились маме в пояс и ушли..
Довелось в бою почуять молодым
Рыжий бешеный огонь и черный дым,
Злую зелень застоявшихся полей,
Серый цвет прифронтовых госпиталей.

Оба сына, оба-двое, два крыла,
Воевали до победы. Мать ждала.
Не гневила, не кляла она судьбу.
Похоронка обошла ее избу.
Повезло ей, привалило счастье вдруг,
Повезло одной на три села вокруг.
Повезло ей! Повезло ей! Повезло!
Оба сына воротилися в село!

Оба сына, оба-двое, плоть и стать,
Золотистых орденов не сосчитать.
Сыновья сидят рядком — к плечу плечо.
Ноги целы, руки целы — что ещё?
Пьют зелёное вино, как повелось...
У обоих изменился цвет волос.
Стали волосы смертельной белизны...
Видно, много белой краски у войны.

## Галаваломка

Знайдзіце ў гэтых двух рысунках дзесяць адрозненняў.

**Адказ на заданне з папярэдняга нумара: Чацверты.**

## Курёзы

### „ШТО ГЭТА?"

Так назвалі амерыканскія заолагі гэту здзіўляючую жывёліну, якую знайшоў у час завеі адзін фермер. Спецыялісты не могуць прыйсці да адзінай думкі адносна яе продкаў, бо істота гэта мае знешнія прыкметы сабакі, лісы, ёсць у ёй нешта і ад шакала, а заднія ногі ў яе, як у кенгуру. І таму наведвальнікам заапарка ў Міноце, дзе цяпер знаходзіцца звярок, ён пакуль вядомы пад імем „Што Гэта?".

### НУ І НУ!

Самая вялікая карціна ў свеце знаходзіцца ў музеі ў г. Істад (Швецыя). Называецца яна „Драгуны са Сконы ідуць купацца". Аўтар карціны дацкі мастак Оскар Мацісен. Яе размер 50 кв. метраў.

### КРАКАДЗІЛ, ЁН ЖА „ЗАЯЦ"

Заходнегерманскія газеты расказалі гісторыю аб тым, як нядаўна ў экспрэсе, які ішоў з Мюнхена ў Кёльн, праехаў без білета... кракадзіл. Ён вельмі напалохаў пасажыраў поезда. На кёльнскім вакзале безбілетніка чакала спецыяльна выкліканая каманда пажарных, якія з вялікай цяжкасцю выцягнулі яго з туалета, дзе ён правёў усё падарожжа.

Як кракадзіл трапіў у поезд, нікому не вядома. Выказваецца меркаванне, што гэта штукі жартаўніка.

## Між нямі

**Калі маўчанне — знак згоды, тады многія студэнты на экзаменах згодны з выкладчыкамі.**